# НАША СВАБОДА

№24(111) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

28 ЛЮТАГА 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





## Шэфства над «Маршалам Усцінавым»

Дагавор аб бестэрміновым шэфстве над экіпажам расійскага ракетнага крэйсера «Маршал Усцінаў» падпісаў у Мурманску з камандзірам карабля і камандаваннем Паўночнага флоту ВМФ Расіі старшыня Мінскага гарвыканкама Міхаіл Паўлаў. Пра гэта паведамляюць расійскія СМІ. Там ён знаходзіўся ў складзе ўрадавай дэлегацыі на чале з прэм'ер-міністрам Уладзімірам Ярмошыным. Раней гэткі ж дагавор аб шэфстве над адным з баявых караблёў Паўночнага флоту падпісала з паўночнаморцамі адміністрацыя Брэста.

Кіраўнік беларускай дэлегацыі падараваў экіпажу крэйсера ад імя ўрада рэспублікі каляровы тэлевізар. У адказ паўночнаморцы паабяцалі наведаць Мінск улетку 2001 года ў дні святкавання Дня горада. Якое дачыненне мае Мінск да расійскага флоту ведае, відаць, толькі М.Паўлаў. ■




## Правы чалавека

### Супрацоўнікаў міліцыі вінавацяць у катаваннях

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

Член арганізацыі Малады Фронт Антон Бойка і ягоны таварыш Віталь Падаляк абвінавачваюць супрацоўнікаў Заводскага РУУС Мінска ў збіванні і прымяненні катаванняў.

Маладыя людзі былі затрыманыя ў ноч 25 лютага непадалёк ад будынка Заводскага райвыканкама. Іх абвінавацілі ў нанясенні надпісаў на будынак выканкама і спробах вывесіць сцяг. Прама на месцы яны былі збітыя супрацоўнікамі міліцыі, а затым дастаўленыя ва ўпраўленне ўнутраных справаў Заводскага раёна. Затрыманых змясцілі ў розныя камеры і пачалі вадзіць на допыты, патрабуючы падпісаць пратаколы аб правапарушэнні, аднак яны адмаўляліся гэта рабіць. Тады, па словах Віталя Падаляка, супрацоўнікі міліцыі прымянілі да яго наступнае катаванне: наматалі на рукі яго даволі доўгія валасы і сталі цягнуць іх у супрацьлеглыя бакі, што было вельмі балюча. Пад уздзеяннем катавання малады чалавек змушаны быў падпісаць пратакол, у якім гаварылася, што ён збіраўся напісаць на сцяне гарвыканкама слова «Зорро».

Да непаўналетняга Антона Бойкі, які таксама, у рэшце рэшт, падпісаў пратакол, прымянілі менш жорсткія меры уздзеяння. Тым не меней, яго доўга трымалі ў душнай цеснай камеры, пакуль ён не страціў прытомнасць, і нецэнзурна зневажалі ў прысутнасці маці, якая была выкліканая да Антона як да непаўналетняга.

Зараз маладыя людзі катэгарычна адмаўляюць сваю віну, заяўляючы, што падпісалі пратаколы іх прымусілі пагрозамі і катаваннямі. Яны наважаныя зафіксаваць нанесеныя ім цялесныя пашкоджанні і звярнуцца ў пракуратуру для ўзбуджэння крымінальнай справы, а таксама паведаміць аб прымяненні катаванняў у праваабарончыя арганізацыі і Кансультатыўна-назіральную групу АБСЕ ў Беларусі. ■




● Сёння праходзіць забастоўка прыватных прадпрымальнікаў, якія пратэстуюць супраць ціску з боку ўладаў. Працяг тэмы на стар.3

# Генерал, які супраць «халоднай вайны»

### Былы міністр абароны Павел Казлоўскі абвесціў пра сваю мэту стаць прэзідэнтам Беларусі. Павел Казлоўскі адказвае на пытанні НАШАЙ СВАБОДЫ

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

***— Спадар Казлоўскі, прайшло 5 дзён, як вы публічна заявілі, што паспрабуеце змагацца за пасаду прэзідэнта. Што змянілася за гэты час у вашым жыцці?***

— Стала меней вольнага часу, больш нічога. За гэтыя некалькі дзён раздаў з добры тузін інтэрв'ю — незалежным беларускім выданням, замежным прэсагенцтвам, радыёстанцыям. Заўважу, ніводная дзяржаўная газета да мяне не звярталася, што я лічу паказальным. Яны ўсе працуюць толькі на аднаго чалавека, хаця ўтрымліваюцца на грошы ўсіх грамадзянаў, у тым ліку і мае.

***— Пра што часцей за ўсё ў вас пытаюцца?***

— Пытаюцца, чаму я вырашыў змагацца за пасаду прэзідэнта.

***— Ужо бачыў у друку ваш адказ на гэта — вы кажаце пра расколатае грамадства, пра прававое бязмежжа з боку ўлады, пра галечу, у якой апынуўся народ. І заяўляеце, што гатовыя ўзяць на сябе адказнасць выратаваць краіну ў гэтым цяжкім становішчы. Сем гадоў таму Лукашэнка паводзіў сябе падобна — памятаеце, абяцаў «запусціць заводы», вярнуць страчаныя грошы, пасадзіць карупцыянераў, а ў выніку развёў карупцыю, непараўнальную з часамі Кебіча. Чаму вы ўпэўненыя, што людзі паверацъ новым абяцанкам?***

— Няпраўда, я пакуль нічога не абяцаю і не збіраюся абяцаць немагчымага. Я толькі ведаю, што ўлада сябе дыскрэдытавала, людзі пачынаюць яе ненавідзець і перамены непазбежныя. Наш абавязак правесці гэтыя перамены мірна, законным шляхам. Я як генерал скажу, што трэба моцная рука, каб забяспечыць гэтыя мірныя змены да лепшага.

***— Выбарчая кампанія гэта як рэкламная кампанія, у якой заўсёды прысутнічае адзін зразумелы ўсім кароткі лозунг. Рэкламшчыкі называюць яго слоганам. Які́м будзе ваш слоган?***

— Яго абвяшчаць рана. Рыхтуюцца і лозунгі, і праграма, але я пакуль устрымаюся іх абвяшчаць. Не правакуйце мяне на парушэнне выбарчага заканадаўства. Гэта Лукашэнка можа дазволіць сабе па сутнасці пачынаць перадвыбарную кампанію датэрмінова – а я чалавек законапаслухмяны.

***— Вы падлічвалі, колькі будзе каштаваць вашая барацьба? Грошай хопіць, асабліва калі параўнаць вашыя рэсурсы з рэсурсамі таго ж Лукашэнкі?***

— Закон дае ўсім роўныя сумы, а астатняе будзе залежаць ад нас саміх. Мне здаецца, пераможа не той, хто патраціць больш грошай, а той, хто менш зэканоміць сілаў. Трэба выкладвацца да канца, вось галоўны сакрэт.

***— На які электарат асабіста вы разлічваеце? На вайскоўцаў і іх сем'і, якія жывуць сапраўды вельмі сціпла і гатовыя выказаць пратэст уладзе калі не на мітынзе, то на выбарчым участку?***

— На вайскоўцаў – безумоўна, але не толькі. Прычым незадаволенасць – не галоўная іх рыса. Вайскоўцы, адстаўнікі, іх сваякі – гэта загартаваная і вельмі дынамічная частка грамадства, здольная прыдаць імпульс тым, хто расчараваўся і паверыў, быццам змены да лепшага не дачакаецца. Мае выбаршчыкі таксама сярод прадпрымальнікаў, якіх я цяпер добра ведаю. Фонд рэабілітацыі здароўя былых вайскоўцаў, які я ўзначальваю, некамерцыйная арганізацыя, але мы супрацоўнічаем і з прадпрымальнікамі. Паверце, ёсць патэнцыял, каб вырвацца з гэтага кола расчаравання.

***— А як жа адзіны кандыдат ад апазіцыі – вы ж разбураеце гэтыя сцэнар...***

— Ніколі не казаў, што я супраць вылучэння адзінага кандыдата, але хай яго вызначыць народ, а не партыйныя функцыянеры. Лічу, што вылучацца трэба некалькім незалежным кандыдатам, бо ка-госьці не зарэгіструюць, кагосьці і ў турму кінуць, я гэтага не выключаю. ►

Заканчэнне на стар.8

## НАВІНЫ

■ **У Баранавічах з'явілася рэгіянальная каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў «Свабодны выбар».** Задачы новага аб'яднання — стварэнне ўмоваў для правядзення справядлівых і дэмакратычных выбараў прэзідэнта краіны; падтрымка адзінага кандыдата на пасаду прэзідэнта ад аб'яднаных дэмакратычных сілаў; каардынацыя дзейнасці дэмакратычных сілаў Баранавічаў і рэгіёна пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў прэзідэнта.

■ **Ўзровень захворванняў сярод работнікаў прадпрыемстваў Брэста перавышае сярэднеабласны ў 1,4 раза.** Праверкі Брэсцкага гарадскога цэнтра і эпідэміялогіі паказалі, што адміністрацыямі прадпрыемстваў не ў поўным аб'ёме выконваюцца мерапрыемствы па прафілактыцы на грып і ВРЗ, медпункты не забяспечаныя неабходным запасам лекавых сродкаў і вітамінаў, а нізкі ахоп гарачым харчаваннем і адсутнасць дыетычных страваў у сталоўках – асноўная прычына высокай удзельнай вагі захворванняў страўнікава-кішачнага тракту.

■ **26 лютага ў Крычаве пачалося судовае разбіральніцтва справаў рэдактараў крычаўскіх недзяржаўных газет «Вольны Горад» і «Наш Вольны Горад».** Сяргея Няроўнага і Мікалая Маторанку абвінавачваюць у парушэнні законаў аб друку і прадпрымальніцкай дзейнасці. Але ў сувязі з тым, што па справе С.Няроўнага патрэбныя дадатковыя сведкі, а ў міліцэйскія пратаколы па справе М.Маторанкі былі ўнесеныя выпраўленні, суд перанесены на 2 сакавіка.

■ **У лютым у Беларусі зноў узраслі тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі.** У параўнанні са студзенем на 5,1 працэнта павялічылася кватрплата і плата за карыстанне ліфтам, на столькі ж падаражэлі ацяпленне, гарачая вада, халодная вада і каналізацыя, газ, вываз і абясшкоджванне адходаў. Апрача таго, на 5,5 працэнта ўзрасла плата за карыстанне радыёкропкай. Электраэнергія падаражэла на 20,8-21,2 працэнта за кВт для гарадскіх жыхароў з газавымі плітамі, з 10,4 да 12,6 рубля – для гарадскіх жыхароў з электраплітамі і сельскага насельніцтва.

■ **Прадстаўнікі грамадскіх арганізацыяў Брэсцкай вобласці, якія падтрымліваюць А.Лукашэнку, вырашылі стварыць Каардынацыйны савет патрыятычных сілаў.** Пагадненне аб стварэнні Каардынацыйнага савета падпісалі абласныя арганізацыі аб'яднання ветэранаў, БПСМ, саюзаў афіцэраў і ветэранаў вайны ў Афганістане, аддзялення Беларускага саюза жанчын, таварыства інвалідаў і іншыя — усяго 17 арганізацыяў.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА

| Горад | Тэмпература |
|---|---|
| Віцебск | -6 -2 |
| Мінск | -5 -1 |
| Магілёў | -6 -2 |
| Гродна | -4 0 |
| Брэст | -3 +1 |
| Гомель | -6 -2 |

Крыніца: www.gismeteo.ru



## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»



1250

## «Дэ-факта» спадабалася злодзеям

**Яніна КОБРЫНЬ**

У Магілёве 26 студзеня была абрабаваная рэдакцыя незалежнай газеты «Дэ-факта». За апошнія дзесяць дзён гэта ўжо другі рабунак магілёўскай незалежнай грамадска-палітычнай газеты. У першы раз, ноччу на 16 лютага, з офіса рэдакцыі выкралі факс. З-за гэтага рэдакцыя вырашыла пераехаць у іншы офіс. Але і на новым месцы газету напаткала гэткая ж бяда. 26 студзеня невядомыя злачынцы выкралі з рэдакцыі камп'ютэр для версткі газеты і прынтар. У скрадзеным камп'ютэры захоўваліся архіў газеты і матэрыялы наступнага нумара «Дэ-факта». Самае дзіўнае, што іншая каштоўная тэхніка рэдакцыі засталася некранутай. ■

## Для дапамогі нарказалежным

**Аляксей АРЭШКА**

28 лютага ў Мінску адбудзецца прэзентацыя даклада Міжнароднага камітэта па кантролі над наркотыкамі (МККН) за 2000 год. Яго сусветная прэзентацыя адбылася 21 лютага.

Як вядома, колькасць наркаманаў і злачынстваў, звязаных з наркотыкамі, у рэспубліцы працягвае ўзрастаць. За мінулы год колькасць афіцыйна зарэгістраваных асобаў, якія ўжываюць наркотыкі, узрасла больш чым на тысячу і склала на канец года 7.397. У 2000 годзе ў Беларусі зафіксавана 3.800 злачынстваў, звязаных з незаконным абаротам наркотыкаў.

*БелаПАН*

## Жорсткасць суддзяў

**Наталля РАДЗІНА**

У Гомелі працягваецца судовы працэс над былым рэктарам Гомельскага медычнага інстытута прафесарам Юрыем Бандажэўскім. Прафесар не прызнаў сябе вінаватым ні па адным з прад'яўленых яму абвінавачванняў. Нагадаем, што вядомага прафесара абвінавачваюць у атрыманні хабару ад студэнта. Некалькі месяцаў у канцы 1999 года Бандажэўскі правёў у турме. У яго абарону выказаліся многія аўтарытэтныя праваабарончыя і міжнародныя навуковыя арганізацыі. На іх думку, сапраўднай прычынаю арышту прафесара стала жаданне ўладаў не даць яму распавядаць праўду пра згубныя наступствы Чарнобыля.

Нягледзячы на тое, што судовы працэс над супрацоўнікамі Гомельскага мединстытута распачаўся яшчэ 13 лютага, 26 лютага адбылося толькі трэцяе паседжанне суда. За гэты час былі зачытанае толькі абвінавачваючае заключэнне і пачаты допыт адной з падсудных выкладчыцаў інстытута. Прычынай перапынку паслужыла тое, што многія адвакаты задзейнічаны ў іншых судовых працэсах. Пры гэтым вядомаму адвакату Гары Паганяйлу было забаронена прымаць удзел у паседжанні ў сувязі з тым, што ён не ўваходзіць у склад дзяржаўнай калегіі адвакатаў.

На апошнім судовым паседжанні, акрамя Ю.Бандажэўскага, сваю віну не прызналі былы прарэктар Уладзімір Раўкоў і маці адной з абітурыентак, якой следства інкрымінуе дачу хабару. Абарона прарэктара Раўкова звярнулася з просьбай аб прызначэнні судова-медычнай экспертызы з мэтай устанавіць, ці можа падсудны, які пакутуе на стэнакардыю і прымае моцнадзеючыя лекі, паўнацэнна ўдзельнічаць у працэсе і знаходзіцца пад вартай з ліпеня 1999 года. Але ваенная калегія адмовіла адвакатам у гэтай просьбе. І гэта нягледзячы на тое, што на кожным судовым паседжанні В.Раўкову аказваюць медычную дапамогу ў сувязі з яго цяжкім станам здароўя. ■

## Цэнзура супраць НТВ

**Наталля РАДЗІНА**

Канфлікт паміж беларускімі ўладамі і расійскім тэлеканалам НТВ набірае абароты. На гэты раз у Беларусі была забароненая трансляцыя па гэтым канале французскага мастацкага фільма «Даберман».

Урыўкі з баевіка «Даберман» НТВ дэманстравала некалькі дзён запар. За гэты час беларускія аматары кінематографа паспелі пазнаёміцца з сюжэтам «Дабермана», які прадстаўляў паляванне ўпартага паліцэйскага на нахабнага рабаўніка. Але сам фільм беларусам пагалядзець не давялося. У нядзелю ўвечары замест «Дабермана» беларускія гледачы ўбачылі запіс забаўляльнай праграмы КВЗ.

Аказалася, што паказ мастацкага фільма «Даберман» быў забаронены ў Беларусі паводле рашэння Рэспубліканскай экспертнай камісіі па прадухіленні прапаганды парнаграфіі, гвалту і жорсткасці, якая дзейнічае пры міністэрстве культуры РБ.

Паводле словаў сябраў экспертнай камісіі, гэты фільм не спадабаўся ім яшчэ ў 1999 годзе. Тады НТВ таксама паказвала «Даберман», і пракуратура Беларусі звярнулася да міністэрства сувязі з просьбай не трансляваць гэты фільм. Цэнзары палічылі, што ў фільме занадта жорсткасці, гвалту, эротыкі, наркотыкаў і алкаголю. Забарону фільма на чужым тэлеканале Рэспубліканская экспертная камісія палічыла цалкам законнай.

Між іншым, канал НТВ з самавольствам беларускіх уладаў не згаджаецца. На думку дырэктара эфірнага вяшчання тэлеканала НТВ Алега Тачыліна, забарона «Дабермана» звязаная са справай самавольнага захопу беларускімі ўладамі рэкламнага часу НТВ. З-за гэтага і забараняецца трансляцыя некаторых фільмаў. НТВ ж ад такіх дзеянняў мае толькі фінансавыя страты, і таму з дня на дзень чакаецца, што кіраўніцтва тэлеканала падасць на беларускія ўлады ў суд. А.Тачылін таксама не выключае, што беларускі бок проста хоча змусіць НТВ спыніць вяшчанне на Беларусь. Такі стан рэчаў нікога не здзівіў бы: напярэдадні прэзідэнцкія выбары, і адносна незалежны погляд расійскіх тэлеканалаў Лукашэнку непатрэбны. ■

**ФОТАФАКТ**



Фота IREX/ProMedia

На мастацкай выставе «Золата» ў мінскай галерэі на вул. Сурганава

## Абрабавалі «Місію дапамогі зняволеным»

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

Напрыканцы мінулага тыдня ў Мінску быў абрабаваны офіс міжнароднага грамадскага аб'яднання «Місія дапамогі зняволеным». Гэтае аб'яднанне было зарэгістраванае ў міністэрстве юстыцыі прыкладна год таму. Яно займаецца паляпшэннем умоваў утрымання зняволеных, аказаннем канкрэтнай гуманітарнай дапамогі папраўчым установам на тэрыторыі рэспублікі.

Намеснік старшыні праўлення гэтай арганізацыі Уладзімір Саламянскі паведаміў, што злачынцы шляхам узлому дзвярэй праніклі ў офіс місіі, які знаходзіцца ў будынку, што належыць навукова-вытворчаму аб'яднанню «Прагрэс». Яны разукамплектавалі камп'ютэр, які знаходзіўся ў памяшканні, і забралі ўсё самае каштоўнае. Камп'ютэр прызначаўся для абсталявання класа інфарматыкі ў дзіцячай калоніі ў Бабруйску. Прапаў і шэраг іншых рэчаў. Ніякіх дакументаў выкрадзена не было. Таму Саламянскі не бачыць у гэтым палітычнай падаплёкі. Выкрадзенае было вынесенае праз прахадную, дзе пастаянна знаходзіцца ахоўнік.

Першымі, паводле словаў намесніка старшыні праўлення арганізацыі, пра візіт злодзеяў даведаліся раніцай 23 лютага супрацоўнікі камерцыйнай структуры, якая арандуе плошчы побач з офісам місіі — у іх камп'ютэрнае абсталяванне было выкрадзенае па аналагічнай схеме. «Прыехаўшыя па выкліку супрацоўнікі Фрунзенскага РУУС у першую чаргу абвінавацілі саміх супрацоўнікаў камерцыйнай фірмы ў тым, што яны садзейнічалі ўчыненню гэтага злачынства тым, што не ўстанавілі сігналізацыю і металічныя дзверы, — расказаў Саламянскі. — Яшчэ больш, прагучала і такое: маўляў, у сувязі з тым, што фірма парушыла нейкую міфічную пастанову гарвыканкама, якая нібыта абавязвае ўсе арганізацыі ўстанавіць металічныя дзверы і сігналізацыю, супрацоўнікі РУУС будуць абавязаны аштрафаваць гэтую фірму на 100 мінімальных зарплатаў. Падлічыўшы магчымыя страты, кіраўніцтва фірмы адмовілася ад напісання заявы».

Сам намеснік старшыні праўлення міжнароднага грамадскага аб'яднання паўторна выклікаў па «02» міліцыю, але дачакаўся прадстаўнікоў улады толькі праз чатыры гадзіны. «І адразу ж стала зразумела, што яны не збіраюцца нічога рабіць, — заявіў Саламянскі. — Яны таксама спрабавалі мяне пераканаць у тым, што мы пасадзейнічалі ўчыненню злачынства, на што мне прыйшлося дастаткова далікатна заклікаць іх да выканання сваіх прамых абавязкаў. Дарэчы, па факце ўзлому і крадзяжу ў суседнім офісе злачынства так і аказалася ўтоеным... У рэшце рэшт былі складзены пратакол агляду, узялі ў мяне паказанні, знялі адбіткі пальцаў, зрабілі фатаграфіі. На развітанне яны мне заявілі, што ўсё гэта пустая справа, ніхто нічога не знойдзе, хаця, як я зразумеў, не знойдуць па адной простай прычыне — ніхто не будзе шукаць».

*БелаПАН*

## Новае аб'яднанне беларускіх татараў

**Марат ГАРАВЫ**

Грамадскае аб'яднанне «Зікр уль Кітаб» (у перакладзе з татарскай — памяць і кніга) мае намер актыўна адраджаць і развіваць нацыянальныя культурныя традыцыі татарскага народа ў Беларусі, заявіў намеснік старшыні новага рэспубліканскага аб'яднання Ібрагім Канапацкі.

Ён паведаміў, што арганізацыя «Зікр уль Кітаб» зарэгістраваная ў міністэрстве юстыцыі ў пачатку 2001 года. Яна ў некаторым сэнсе з'яўляецца пераемніцай раней існаваўшага аб'яднання татар-мусульманаў «Аль Кітаб», якое дзейнічала ў Беларусі з ліпеня 1991 года, але па шэрагу прычынаў не прайшло перарэгістрацыю ў 1999 годзе.

Сярод асноўных накірункаў дзейнасці новага аб'яднання — вырашэнне адукацыйных задач, стварэнне цэнтраў развіцця нацыянальнай культуры беларускіх татараў і добраўладкаванне татарскіх могілак — мізараў. У бліжэйшых планах «Зікр уль Кітаба» — аднаўленне нацыянальных помнікаў дайніны, у тым ліку старажытнай мячэці XVII стагоддзя ў Лоўчыцах (у пяці кіламетрах ад Навагрудка), дзе мяркуецца адкрыць музей татарскага быту, а таксама мячэці XVI стагоддзя ў Доўбучках (Смаргонскі раён Гродзенскай вобласці). Гэты помнік драўлянага дойлідства быў у разабраным выглядзе перавезены пад Мінск, у Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і быту, дзе і працягвае заставацца ў такім жа выглядзе амаль 10 гадоў.

Акрамя гэтага, аб'яднанне плануе актыўна развіваць супрацоўніцтва з татарскімі абшчынамі суседніх краінаў. Так, у траўні беларускія татары возьмуць удзел у кангрэсе Міжнароднай федэрацыі татарскіх саюзаў. Як лічыць Ібрагім Канапацкі, кангрэс павінен садзейнічаць аб'яднанню татараў Беларусі, Польшчы і Літвы, якія больш за 600 гадоў жывуць на гэтых землях.

Паводле звестак перапісу насельніцтва 1999 года, у Беларусі жывуць больш чым 10 тысяч татараў. Найбольш кампактна яны расселеныя ў Іўі, Навагрудку, Слоніме, а таксама ў Смілавічах і ў Мінску. ■

*БелаПАН*

## Бойка ў зале суда

У Гомелі 26 лютага падчас судовага працэсу над супрацоўнікамі Гомельскага медыцынскага інстытута адбыўся інцыдэнт з удзелам журналіста і праваабаронцы Валерыя Шчукіна.

Адным з падсудных па гэтай справе з'яўляецца прарэктар медінстытута Уладзімір Раўкоў. Ягонная жонка, Наталля Раўкова, на працягу ўсіх судовых разглядаў не дапускаецца ў залу паседжанняў, бо яна заяўленая ў якасці сведкі. Прычым, Н.Раўкову проста не дапускаюць у залу ахоўнікі, а не выдалае суддзя, як таго патрабуе працэдура. Даведаўшыся пра гэта, В.Шчукін у размове з супрацоўнікамі ПЦ «Вясна» на мінулым тыдні заявіў, што «ўнясе гэтую няшчасную жанчыну ў судовую залу на руках».

І вось 26 лютага Н.Раўкова разам з Валерыем Шчукіным у чарговы раз зрабіла спробу патрапіць у залу суда. Валерыя Шчукіна ахоўнік, які стаяў каля ўваходу ў залу, прапусціў, а жанчыну спыніў. Шчукін вярнуўся і пачаў адштурхоўваць вайскоўца, пры гэтым яны разам паваліліся на падлогу, а Наталля Раўкова паспела за гэты момант праскочыць у судовую залу, дзе яе спрабавалі затрымаць ахоўнікі. Падчас гэтага затрымання і ахоўнікі, і жанчына, і паспеўшы падняцца Валеры Шчукін зноў паваліліся на падлогу.

Сварку разнялі, а Валерыя Шчукіна і Наталлю Раўкову адвялі ў асобнае службовае памяшканне. Па іх, па словах аховы судовай залы, павінна была прыехаць спецыяльная служба. Аднак яна не прыехала і Валерый Шчукін з Наталляй Раўковай правялі астатні час на паседжанні суда. ■

*Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна»*

## У Мінску вяшчае «Рускае Радыё»

**Аляксей АРЭШКА**

У Мінску на частаце 98,9 FM-дыяпазона пачала вяшчанне расійская радыёстанцыя «Рускае Радыё». Праект ажыццёўлены пры ўдзеле беларускага «Радыё Рокс» і Рэспубліканскага радыёперадаючага цэнтра.

Як паведаміла дырэктар «Радыё Рокс» Таццяна Сядова, праект адначасова мае камерцыйныя і творчыя мэты. «Радыё Рокс» вяшчае ў рэспубліцы з пачатку 90-х гадоў і з'яўляецца даволі кансерватыўнай і стабільнай станцыяй, якая не мяняе свой фармат. Разам з тым вельмі многія слухачы ў Беларусі хацелі б чуць больш рускамоўнай музыкі. Па словах кіраўніка «Радыё Рокс», арганізоўваючы вяшчанне новай станцыі, было вырашана «не адкрываць Амерыкі», бо ўжо існуе правераны гадамі, вельмі паспяховы праект. Да таго ж на «Рускім Радыё» працуюць многія, хто, у сваю чаргу, пачынаў калісьці працаваць на «Роксе». ■

*БелаПАН*

## Слова «Беларусь» адпуджвае інвестараў

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

Для прыцягнення найбольшай увагі да праспекта дзелавых прапановаў Мінскага сталічнага саюза прадпрымальнікаў і працадаўцаў аўтары змянілі назву каталога, прыбраўшы з яго слова «Беларусь». Калі праспект дзелавых прапановаў членаў МССПіР, які распаўсюджваўся саюзам летась, называўся *Belarus 2000. We open for your business* («Беларусь 2000. Мы адкрыты для Вашага бізнесу»), то варыянт бягучага года будзе мець назву *Supply & Demand* («Попыт і Прапанова»). Падставай для змянення назвы паслужылі прапановы шэрагу замежных партнёраў МССПіР, якія насілі ў некаторай ступені нават палітычны характар. Так, кіраўніцтву саюза стала вядома аб тым, што некаторыя патэнцыяльныя інвестары, прадстаўнікі міжнародных інвестыцыйных арганізацыяў адкладвалі ў бок праспект дзелавых прапановаў членаў МССПіР, толькі ўбачыўшы ў яго назве слова «Беларусь».

Новае выданне - каталог *Supply & Demand* — рыхтуецца да выпуску выдавецтвам «МакТех» сёлета ў траўні і распаўсюджвання ў 196 краінах свету. Каталог выйдзе накладам у 5 тысяч асобнікаў на англійскай і рускай мовах і будзе ўтрымліваць інфармацыю аб канкрэтных дзелавых прапановах прадпрыемстваў і прадпрымальнікаў і попыце на рынку Беларусі ў 2001-2003 гадах.

Адрасная, мэтавая і імянная рассылка каталога будзе праводзіцца, у прыватнасці, кіраўнікам бізнес-асацыяцыяў, ва ўрады, дзелавыя асацыяцыі, мэрыі сталіцаў, у пасольскія і консульскія ўстановы Беларусі за мяжой, у дырэкцыі міжнародных фінансавых і кансалтынгавых кампаніяў, інвестыцыйных фондаў, у міжнародныя эканамічныя і фінансавыя арганізацыі. ■

*БелаПАН*

## Сем гарадоў дапамогуць Клімавічам

**Канстанцін УВАРАЎ**

25 лютага ў Клімавіцкі раён Магілёўскай вобласці прыбылі прадстаўнікі шэрагу дабрачынных арганізацыяў Германіі, з некаторымі з якіх раён супрацоўнічае ўжо больш за 10 гадоў.

Пры ўдзеле гэтых арганізацыяў у Клімавічах у свой час быў адкрыты сацыяльны прытулак для дзяцей дашкольнага ўзросту, абсталяваны аздараўленчы лагер і інтэрнат для школьнікаў, ажыццяўляюцца праграмы аздараўлення дзяцей, абмену студэнтамі і старшакласнікамі, аказваецца гуманітарная дапамога. Цяпер прадстаўнікі сямі гуманітарных ініцыятываў з гарадоў Рэйн-Нае, Хаген, Дортмунд, Лангенберг, Дзюльмен і іншых вырашылі аб'яднаць свае намаганні для аказання сумеснай дапамогі жыхарам раёна, забруджанага радыяцыяй пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Паводле звестак БелаПАН, кіраўніцтва раёна прапануе ўвазе гасцей некалькі праектаў, якія можна рэалізаваць з іх удзелам. У іх ліку — арганізацыя цэнтра сацыяльна-псіхалагічнай дапамогі, аказанне дапамогі Дому ветэранаў і вырашэнне праблемы пітной вады. ■

*БелаПАН*

## Што гэта было?

**Аляксей СТАЎСКІ**

Менавіта такое пытанне хочацца задаць футбалістам зборнай клубаў Беларусі пасля таго, як азіраешся на іх выступленне на міжнародным футбольным турніры «Албена-2001», што праходзіў у Балгарыі. У апошніх двух гульнях беларусы згулялі ўнічыю — 0:0 — з клубам «Чорна мора» з балгарскага горада Варна, а затым прайгралі 0:1 нацыянальнай зборнай Азербайджана. Вынікі турнэ несуцяшальныя – чатыры паразы пры адной нулявой нічыі. Што гэта сапраўды было, слабасць зборнай без удзелу ў ёй легіянераў? Але ж мы лічым наш чэмпіянат не зусім «мёртвым». Міжсезонне? Дык яно ж ва ўсіх, у тым ліку і ў балгараў з азербайджанцамі. Дык што тады?

Верагодней за ўсё, што адказ на гэтае пытанне мы зможам атрымаць толькі пасля дзвюх афіцыйных гульняў зборнай у рамках адборачнага турніру да чэмпіянату свету-2002, што пройдзе ў Паўднёвай Карэі і Японіі. Мы згуляем 24 сакавіка ў Кіеве з вельмі моцнай (Раброў, Шаўчэнка, Шаўкоўскі) зборнай Украіны і 28 сакавіка ў Мінску — з вельмі напорыстай і добра падрыхтаванай фізічна зборнай Нарвегіі. Толькі афіцыйныя гульні заўсёды высвечваюць сапраўдныя вынікі трэніровачнай падрыхтоўкі ў міжсезонне. ■

# Генерал, які супраць «халоднай вайны»

Заканчэнне.
Пачатак на стар.1

Потым прайсці першы тур і вызначыць, хто мае большыя шанцы. А да таго адзін аднаму не перашкаджаць. Закон жа нават не забараняе людзям ставіць подпісы за розных кандыдатаў, гэта трэба выкарыстоўваць, а не сварыцца.

***— Мяркуючы па вашым тоне, вы падмацавалі гэтыя сцэнар дамовай з іншымі прэтэндэнтамі? Можна даведацца, з кім?***

— Гэтай жа думкі прытрымліваецца Міхаіл Чыгір і Уладзімір Ганчарык. Тут мы хаўруснікі.

***— Сваю праграму вы не называеце, фінансавыя пытанні таксама трымаеце ў сакрэце. І ўсё ж, хто за вамі стаіць, якія сілы? Былі чуткі, што нядаўна вы ездзілі ў Маскву, і гэта там вас пераканалі, што беларускія выбары без генерала Казлоўскага будуць непаспяховымі. Дык была паездка ў Маскву і кансультацыі там наконт вашага ўдзелу ў выбарах?***

— Паездка была, і кансультацыі з маімі сябрамі, але што з таго? Гэтаксама я кансультаваўся з прадстаўнікамі з іншых краінаў тут у Мінску і бываў шмат яшчэ дзе. Справа ў іншым. Відавочна, што Беларусь мае шанец абраць менавіта ў гэтым годзе новага прэзідэнта. Так думаюць не толькі на Захадзе, але і ў Маскве. Расіі, якая пры новым прэзідэнце імкнецца падтрымліваць добрыя адносіны на ўсіх накірунках, вельмі супраць-паказана мець у бліжэйшых хаўрусніках такога адыёзнага палітыка, як Лукашэнка. Я пераканаены, што ў Маскве гэта зразумелі і будуць спрыяць змене лідэра ў Беларусі. Але зрабіць гэта павінны мы самі. Толькі мы самі можам пакласці канец той «халоднай вайне», якую распачаў з усім цывілізаваным светам Лукашэнка.

***— Паводле незалежных сацыёлагаў, рэйтынг Лукашэнкі недзе 30 адсоткаў, і перамагчы яго будзе вельмі цяжка. А які рэйтынг у генерала Казлоўскага? І яшчэ я вас спытаю, ці вызначылі вы для сябе такую мяжу, не дасягнуўшы якой вы адмовіцеся ад далейшага змагання?***



— Пра гэта казаць зарана. Мяне знаёмілі з дадзенымі, згодна з якімі я ўжо зараз маю 4 адсоткі – гэта не праводзячы ніякай кампаніі, толькі дзякуючы «генералу Казлоўскаму». Для старту нядрэнна, а далей час пакажа. Прыкладам, калі вырашаць умяшацца расійскія тэлеканалы – ніякі вялікі рэйтынг не дапаможа. І наадварот.

***— А вы думаеце, яны адседжвацца не будуць?***

— Упэўнены. У Маскве мне давялося сустракацца з расійскімі тэлевізіёншчыкамі якраз пасля таго, як яны «размазалі» Лукашэнку за ягоны апошні візіт у Маскву і асабліва за раптоўнае з яе бегства. Я спытаў, хіба была каманда «размазваць»? Не, кажуць, але ж і не было адваротнай, а для нас гэта ўжо сігнал «ату яго». Уяўляеце, што пачнецца, калі дадуць каманду – ніякі рэйтынг не дапаможа. Тым больш, што самому ж Лукашэнку добра вядома, чаго варты яго рэйтынг, як ён вылічаецца і кім. Таму я паўтараю – шанец перамагчы ў гэтым годзе як ніколі вялікі, яго толькі трэба выкарыстаць. ■

## Прадпрымальніцкае папярэджанне

**Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ**

28 лютага прыватныя прадпрымальнікі Беларусі ладзяць аднадзённы папераджальны (католры ужо!) страйк. Адзін з кіраўнікоў прадпрымальніцкага руху Леанід Каліценя заяўляе, што 28 лютага на працу не выйдуць да 100 тысячаў «чаўнакоў».

У адрозненне ад пяціздзённага папераджальнага страйку, на якім вылучаліся да дзесяці патрабаванняў, цяпер ставяцца рубам толькі два пытанні: не дапусціць павышэння ставак фіксаванага падатку і адправіць у адстаўку старшыню Дзяржаўнага мытнага камітэта. На мясцовым узроўні, да прыкладу на рынку ў Ждановічах, у дадатак будуць вылучацца яшчэ і свае патрабаванні: не дапусціць павышэння ставак кошту арандуемых месцаў.

Л.Каліценя заяўляе, што праект дэкрэта «Аб адзіным падатку», які больш за год быў яблыкам разладу паміж «чаўнакамі» і ўладаю, першых «збольшага задавальняе»: адмяняюцца талоны, прадугледжваецца абавязковы месячны адпачынак да гэтак далей. Аднак, паводле праекта дэкрэта, стаўкі фіксаванага падатку павышаюцца ў тры разы з дзеючымі нормамі, што індывідуальныя прадпрымальнікі называюць «недапушчальным». Менавіта «незгаворлівасць» Мытнага камітэта і стала падставаю для правядзення страйку. ■

# В Молдове коммунисты взяли реванш

## И уже объявили, что готовы нарушить Конституцию

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

**Результаты досрочных парламентских выборов в Молдове стали сенсационными. После развала СССР Молдова стала первой страной в СНГ, где к власти вернулась коммунистическая партия. А ее первый секретарь Владимир Воронин станет в ближайшие дни президентом страны.**



Во внешнеполитических ведомствах ведущих западных стран Республика Молдова всегда входила в триаду, наряду с Украиной и Беларусью, процессы в которых изучались и изучаются одним ведомственным департаментом. После победы молдавских коммунистов никаких панических заявлений со стороны Запада о том, что, мол, проморгали Молдову, не последовало. Демократия так демократия. Ведь выборы признаны. Любопытно, что и интеграционного приступа официального Минска также не последовало. Реакция на заявление товарища Воронина о желании вступить в белорусско-российский союз была весьма сдержанной. Вице-премьер и министр иностранных дел Республики Беларусь Михаил Хвостов так и сказал, что к заявлению В.Воронина следует относится как к заявлению. А многозначительные импульсы Кремля, последовавшие после объявления результатов этих выборов, говорят о том, что его больше, в связи с происшедшим, интересует дальнейшая судьба Украины, лежащей на пути из Москвы в Кишинев, нежели самой Молдовы. Украина — основной элемент путинской игры за увеличение влияния России на просторах СНГ.

По мнению бывшего заместителя министра иностранных дел Беларуси Андрея Санникова, сдержанная реакция Минска на заявления из Кишинева о присоединении к белорусско-российскому союзу может объясняться следующим. Ведь не к пока еще остающимся председателем Высшего государственного совета этого Союза Александру Лукашенко обратился с просьбой новый молдавский лидер, а к российскому руководству. Предполагается, что уже в марте, на заседании Высшего государственного совета, в председательское кресло сядет российский президент. Со всеми полномочиями, данными соответствующими подписанными и ратифицированными документами. Понятно, белорусский лидер не желает терять лавры главного союзника России и самого крутого интегратора на постсоветском пространстве. Поэтому, видимо, испытывает дискомфорт от таких популистских заявлений других интеграторов, стремящихся на халяву, за счет российских ресурсов поправить экономические завалы. Можно напомнить, что с аналогичными просьбами тов. Воронина, несколько лет назад просился в российско-белорусский союз другой лидер, с другого берега Днестра Игорь Смирнов — президент никем в мире не признанной Приднестровской Молдавской Республики. Если бы в 1996 году, после президентских выборов в Кремле хозяином бы стал Геннадий Зюганов, то приднестровских сепаратистов вполне могли приютить. Однако, внешне замороженная ситуация вокруг приднестровской проблемы за последние годы все же тихо развивалась. Одним из результатов явилось то, что Киев в многом вытеснил Москву из Приднестровья. По оценкам специалистов, ее влияние в этом анклаве существенно уменьшилось. С появлением В.Путина в Кремле такое положение, конечно, не могло устраивать новое российское руководство. Кстати, многие украинские политики склонны связывать нынешний политический кризис на Украине с происками именно российских спецслужб, которые, дестабилизируя ситуацию, вынуждают президента Леонида Кучму разворачиваться в сторону Москвы и отказываться от ориентации на Запад. Белорусский союзник Москвы при этом как-то не очень часто упоминается. Его верность славянскому единству общеизвестна.

Есть основания полагать, что одним из стержней своей нынешней политики союзные реаниматоры будут стараться сделать религиозный компонент. Ведь в Молдове доминирует православие. Правда, на Украине с ним существуют известные сложности. Там не все признают Московскую патриархию. Впрочем и в Молдове, как и в родственной Румынии, православные иерархи дружнее с Ватиканом, нежели единоверцы из России и Беларуси. Не лишним будет напомнить, что Румыния стала первой в истории православной страной, которую посетил Папа Римский Иоанн Павел Второй. Ожидается, что Украина в скором времени также примет главу Ватикана. Интересная может выйти загогулина для славянских заединщиков.

Сделанные тов. Ворониным заявления на сегодняшний день являются по сути антиконституционными. Очевидно, что стремление новых руководителей Молдовы вступить в российско-белорусский союз противоречит ее нейтралитету, закрепленному в Конституции. Выходит, ее станут перекраивать. Надо полагать путем референдума. Как в 1996 году в Беларуси. Ведь некогда суверенная Беларусь тоже провозглашалась нейтральной. Ну, по крайней мере стремилась к этому. Уже седьмой год пошел правления А.Лукашенко, при котором никому и в голову не приходит уличить Беларусь в какой-либо нейтральности. Сегодня, по словам своего правителя, она является надежным форпостом России на западных рубежах. Пока трудно сказать, станут ли подобным форпостом делать Молдову.

Как известно, Молдова стала первой страной в СНГ, которая отказалась от президентской формы правления. Главу государства стал избирать парламент. И если парламентская республика, например, прижилась в трех балтийских государствах, которые успешно интегрируются в Европу, то в Молдове она вернула компартию во власть. Похоже, обладая большинством в парламенте, коммунисты будут пытаться вновь переустроить политическую систему и вернуться к президентскому правлению.

Что касается судьбы отколотой Придестровской Молдавской Республики, то, судя по всему, она остается для молдавских коммунистов сепаратистской. Прошедшие выборы руководство в Тирасполе проигнорировало. Интересно, как будут в дальнейшем в Кишиневе воспринимать то обстоятельство, что Минск поддерживает довольно тесные и разнообразные отношения с Тирасполем? Довольно пестрая компания с обеих берегов Днестра стучится в один и тот же союз. Демократические выборы в Молдове не столько ответили на целый ряд вопросов, сколько породили новые. Представляется малопонятным, как теперь будут, например, строится отношения Кишинева не только с российско-белорусским, но и Европейским Союзом, с которым Молдова имеет ряд подписанных соглашений. Не исключено, что какое-то оживление последует и со стороны Бухареста. Пожалуй, самым важным вопросом станет очень вероятная ревизия уже проведенной широкой приватизации в различных секторах экономики. Как коммунисты могут решать вопросы собственности, известно. ■

# Открытое письмо

***Уважаемый господин Пауэлл,***

Мы обращаемся к Вам с просьбой оказать давление на правительство Российской Федерации с целью предотвращения грубых и повсеместных нарушений прав мирных граждан в Чечне российскими Вооруженными силами. Для американского руководства – это уникальная возможность остановить насилие, а для президента Буша – выполнить данное им в Платформе Республиканской Партии обещание действовать решительно в деле защиты прав мирного чеченского населения.

Недавние отчеты, подготовленные такими организациями, как «Врачи за права человека», *Human Rights Watch* и «Американский комитет беженцев», свидетельствуют о том, что российские войска продолжают терроризировать мирных чеченских граждан. Незаконные аресты и задержания, пытки, дисциплинарные наказания, исчезновения, вымогательства, неуважение к нейтральному статусу медицинских работников, бомбежка общественных центров стали повседневной практикой. Коррупция, отсутствие всякой дисциплины и ответственности за свои поступки разлагают контингент российских войск в регионе.

Гуманитарная ситуация остается критической. Треть чеченского населения, более 260 тыс. человек, — это перемещенные лица, потерявшие постоянное место жительства. Еще 170 тыс. чеченцев нашли прибежище и влачат жалкое существование в соседней Ингушетии. Международные гуманитарные организации не могут продолжать эффективную работу в регионе, потому что не в силах гарантировать своим представителям физическую безопасность.

Принимая во внимание вышеизложенное,

**1.** Мы просим президента Буша напомнить президенту Владимиру Путину, что Соединенные Штаты ожидают от России

а) контроля над войсками в Чечне,

б) соблюдения прав человека в регионе,

в) справедливого суда над всеми виновными в совершенных злодеяниях,

г) доступа в регион для представителей ООН и ОСБЕ. Мы также призываем Вас обсудить ситуацию в Чечне во время Вашей встречи с российским министром иностранных дел Игорем Ивановым.

**2.** Мы призываем США активно поддержать новую резолюцию по Чечне на сессии Комиссии по правам человека при ООН, которая начнет свою работу 19 марта. Трудно переоценить важность позиции американского руководства для поддержки тех европейских стран, которые требуют от российского правительства исполнения взятых обязательств по соблюдению прав человека в Чечне. Резолюция должна:

а) осудить Россию за невыполнение Резолюции 2000/58,

б) созвать международную комиссию, которая расследует обвинения в зверстве и насилии, вменяемые российским войскам в Чечне, и доложит о результатах своей работы,

в) обеспечить свободный доступ на Северный Кавказ представителям ООН,

г) поддержать возврат в регион Группы содействия Чечне при ОСБЕ.

**3.** Мы призываем США быть верными своему слову и четко следовать выполнению одного из положений, записанных в Платформе Республиканской Партии: «...если российское правительство продолжает терроризировать мирных чеченских граждан – убивает невиновных, оставляя преступников безнаказанными, не заботится о сиротах и беженцах, — оно не может рассчитывать на финансовую поддержку международных кредитных организаций...». Соединенные Штаты должны приостановить выдачу кредитов России до тех пор, пока российское правительство не установит контроль над бесчинствами своих солдат в Чечне, призовет к ответственности всех виновных и перестанет препятствовать работе международных наблюдателей над соблюдением прав человека в регионе. Ни одна программа Международного валютного фонда или «Парижского клуба» не должна быть утверждена до тех пор, пока Группе содействия Чечне при ОСБЕ не будет предоставлена возможность возобновить свою работу на Северном Кавказе.

**4.** Мы обращаемся к Государственному Департаменту США с просьбой выделить одобренные Конгрессом 10 миллионов долларов для поддержки деятельности американских и международных организаций, оказывающих помощи в регионе.

Безоговорочное осуждение российской политики в Чечне со стороны Администрации Президента Буша станет важным сигналом о том, что США не потерпят кровавую резню в регионе.

Мы будем рады возможности встретиться с Вами, чтобы обсудить ситуацию более подробно.

*С уважением,*

***Леонард Рубинштейн**, исполнительный директор, Врачи за права человека; **Нина Бэнг-Дженсен**, исполнительный директор, Коалиция за международную справедливость; **Холли Картнер**, исполнительный директор, Европейское и Центрально-Азиатское отделение Human Rights Watch; **Гленн Ховард**, исполнительный директор, Американский комитет за мир в Чечне; **Катерина Фицпатрик**, исполнительный директор, Международная лига по правам человека; **Ирена Ласота** и **Эрик Ченовец**, содиректоры, Институт за демократию в Восточной Европе; **Линн Томас**, исполнительный директор, Адвокаты Миннесоты за права человека; **Бил Фрелик**, директор, Американский комитет беженцев.*

# Магия драгоценного камня

Валерий ГАШКОВ, геммолог

**Что есть драгоценный камень? Любой человек ответит – это алмаз, рубин, сапфир, изумруд, жемчуг. Но это ответ на совсем другой вопрос – какие камни относятся к драгоценным? Кстати, ответ не совсем правильный.**

Действительность такова, что вся нормативная документация, действующая в настоящее время в Республике Беларусь, определяет в качестве драгоценных камней лишь эти камни да еще александрит. Даже янтарь, месторождения которого есть в Беларуси, из их числа исключен. Такое положение (т.е. выделение в «драгоценные» выше перечисленных камней) вполне объяснимо (но не оправдано), поскольку вся нормативно-техническая база по драгоценным камням (законы, положения, ГОСТы, ОСТы и др.), действующая в Республике Беларусь, основывается на нормативной документации бывшего СССР, в котором ювелирных камней было много и их, в общем, не жалели. Одних алмазов ежегодно добывалось 35–40 миллионов карат в год (то есть 7–8 тонн). Вот почему к драгоценным камням относили только те, что перечислены выше.

Однако основная масса ювелиров и геммологов (геммолог – специалист по драгоценным камням) дальнего США, Германии, Израиля, Бельгии, Франции, Литвы, Латвии, Украины и других стран к драгоценным камням относит большее количество минералов – около 100 минеральных видов и порядка 200 разновидностей (всего минералов насчитывается более 4.000). Из них 75% объема приходится лишь на 15 названий – алмаз, рубин, сапфир, изумруд, жемчуг, топаз, гранаты, бирюза, опал, александрит и прозрачные разновидности кварца (горный хрусталь, аметист, цитрин, празиолит, розовый кварц). На долю остальных приходится 25%. Однако, это не означает, что ими следует пренебрегать. Во-первых, их значение как в количественном, так и в стоимостном выражении будет постепенно возрастать, а, во-вторых, геммологам их необходимо изучать, чтобы не спутать с наиболее известными драгоценными камнями. Вот пара примеров такой ошибки. Большая императорская корона Российской империи знаменита огромным кроваво-красным «рубином». В действительности он оказался полудрагоценной шпинелью. Корону Британской империи тоже украшает не рубин, как считали до середины тридцатых годов XX столетия, а также полудрагоценная шпинель. Но оценки стоимости шли как за «рубин».

Так что же такое драгоценный камень? Определение драгоценного камня должно обязательно включать понятие «красоты», под которой понимается совокупность оптических свойств какого-либо минерала или минерального агрегата – цвет, блеск, прозрачность, дисперсия или «игра» и другие определяющие внешнюю привлекательность минерала.



Красота камня должна быть, как принято говорить в геммологическом мире, «нетленной», т.е. долговечной. Известные камни, такие, например, как бриллианты «Шах» и «Орлов», насчитывают не одну сотню лет, но за это время не изменились ни на йоту. Долговечность определяется физическими свойствами камня (твердость, хрупкость и спайность), а также химическими свойствами, главным образом — активностью, т.е. способностью взаимодействовать с окружающей средой (воздух, вода, пот, солнечный свет и т.д.). Например, жемчуг и янтарь портятся, т.е. теряют внешнюю привлекательность при длительном нахождении на солнечном свете. Малахит и азурит разрушаются под воздействием человеческого пота. Бирюза боится воды и т.п.

Третьей составляющей достоинства настоящего драгоценного камня является его редкость, или уникальность. Чем реже встречается камень в природе, тем выше он ценится. Но, конечно, камень не должен быть настолько редким, чтобы о нем почти никто не знал, в противном случае он не будет высоко цениться. Так, бенитоит, обладающий очень красивым сапфирово-синим цветом и хорошей «игрой» света, встречается в виде редких кристаллов лишь в одном месторождении – Сан-Бенито, Калифорния, США, – что и обуславливает его не очень высокую стоимость.

Наконец, четвертая составляющая достоинства драгоценного камня – исторические традиции и колебания моды. Например, в семидесятые годы излюбленным цветом дамских платьев на Западе был фиолетовый, и поэтому большим успехом пользовались камни фиолетового (сиреневого) цвета — чароит и аметист. Потом мода на платья такого цвета прошла и, как следствие, упала цена на эти камни.

Вообще-то цена камня, в отличие от его стоимости, это в конце концов всего лишь прихоть рынка, хотя в настоящее время цены на драгоценные камни первого (алмаз, изумруд, рубин, сапфир, александрит и жемчуг) и второго (империал-жад, цимофан, черный благородный опал, падпараджа) порядков колеблются незначительно

Суммируя все оценки, можно сказать, что драгоценный камень – это минерал, т.е. твердое природное химическое соединение или самородный элемент, обладающий красотой внешнего вида, обусловленной оптическими свойствами, долговечностью, обусловленной определенными физическими и химическими свойствами, относительно редко встречающийся в природе и вследствие этого традиционно используемый человечеством на протяжении своей истории в качестве ценности. (Для примера: один грамм чистого золота банковского слитка оценивается в 10–12 долларов США, а бриллиант весом в один карат (0,2 г) самых худших характеристик цвета и дефектности – 230 долларов США, самых лучших характеристик – 11 тысяч долларов США.)

Поскольку интерес к ювелирным, и в первую очередь, к драгоценным, камням во всем мире возрастает и масса их (а, следовательно, и их подделок) тоже, то требуется создание общегосударственного подразделения, которое будет заниматься вопросами идентификации, качественной и стоимостной оценки этих товаров, поступающих к нам из-за рубежа. Таким подразделением может стать геммологический центр Беларуси, полем деятельности которого и должно быть экспертное определение ценностей, представляемых организациями и отдельными гражданами для качественной и стоимостной оценки драгоценных камней и изделий, с выдачей соответствующего официального документа. ■

# Па лініі найменшага супраціву

Генадзь ЛАГУНОВІЧ, аматар гісторыі

Колькі гадоў таму ў мінскіх кнігарнях раз за разам з'яўляліся выдадзеныя ў розных гарадах Расіі хрэстаматыі па яе найноўшай гісторыі. Купляючы чарговую кніжку (у кожнай з іх знаходзіў шмат дакументаў, якія раней утойваліся ад нас), шкадаваў, што дагэтуль няма ў продажу падобных зборнікаў па беларускай мінуўшчыне. І вось, урэшце, трымаю ў руках «Историю Беларуси в документах и материалах» (аўтары-складальнікі І.Кузняцоў і В.Мазец. Мн., «Амалфея», 2000). Не буду распавядаць пра яе вартасці, якія, безумоўна, ёсць, а звярну ўвагу на сякія-такія хібы.

Даведачны апарат кнігі, па-мойму, заслугоўвае эпітэта «убогі». На яе старонках, у адрозненне ад тых жа расійскіх хрэстаматыяў, няма ні ўводзінаў да раздзелаў, ні заўвагаў да асобных публікацыяў, ні імянных паказальнікаў з кароткімі біяграфіямі... Адсутнічае і элементарная для такіх выданняў нумарацыя дакументаў і матэрыялаў.

Але больш за ўсё расчараваны тым, што пераважная частка дакументаў узятая з крыніцаў савецкага часу або з выданняў апошніх гадоў, зарыентаваных на вядомыя ўстаноўкі (новыя па форме, старыя па змесце) «галоўнага гісторыка» краіны. Так, з 85 матэрыялаў, змешчаных у двух раздзелах – «Беларусь в составе Речи Посполитой» і «Беларусь в составе Российской империи», больш сямідзесяці запазычаныя з адной кнігі, выдадзенай у 1977 годзе («Хрестоматия по истории Белоруссии. С древнейших времен до 1917 г.»). Ну, а складальнікі апошняй, у сваю чаргу, перадрукавалі дакументы з кніг, выпушчаных у 30–60-х гг.

Матэрыялы ж сучаснай адраджэнскай літаратуры, уключаныя ў гэтыя раздзелы, можна пералічыць на пальцах адной рукі. Таму не дзіўна, што, да прыкладу, шматлікія захопніцкія войны Масковіі і Расіі ў XV–XVIII стагоддзях, якія прынеслі велізарныя страты беларускаму народу, не атрымалі адэкватнага адлюстравання ў новай кнізе. Дый не кожны адразу разбярэцца, што і да чаго там у некаторых надрукаваных урыўках і вытрымках. Хто, скажам, першым узняў меч і з якой мэтай вызваленне ці закабаленне суседа? У такіх выпадках і саслужыў бы службу дыхтоўны даведачны апарат кнігі.

З раздзелаў «История Беларуси...», прысвечаных савецкаму перыяду, самы вялікі адрэзак часу ахоплівае перадапошні – «Беларусь в условиях кризиса социализма. 1950–1990 гг.» Але ён, на мой погляд, аказаўся не самым удалым. Тры чвэрці змешчаных тут дакументаў – гэта вытрымкі з дакладаў кіраўнікоў БССР, партыйных рашэнняў, паведамленняў перыёдыкі пра ўсё новыя і новыя «поспехі» рэспублікі ў развіцці народнай гаспадаркі, культуры і г.д. (Дзівоснае супадзенне: большасць згаданых публікацыяў можна знайсці ў «Хрестоматии по истории БССР», якая выдавалася ў 1972 і 1984 гг. і спасылак на якую ў дадзеным выпадку няма).

Або ўзяць такую праблему, як асіміляцыя беларусаў у форме русіфікацыі. Калі аб русіфікатарскай палітыцы царызму сёе-тое згадваецца ў новым выданні, дык пра дзеянні савецкай улады і цяперашняга рэжыму па насаджэнні сярод нашага народа рускай мовы і культуры не сказана ні слова. Здаецца, не вельмі шануюць мову карэннай нацыі і самі паважаныя складальнікі «Истории Беларуси...». На ёй надрукавана толькі тры з паловай дзесятка дакументаў і матэрыялаў (усяго іх больш за 240). А пачынаючы з шостага раздзела «Беларусь в период НЭПа» і да канца кнігі ўсе публікацыі падаюцца выключна на рускай мове.

Так, прадмова папярэджвае: большасць матэрыялаў «публикуется на языке оригинала». Аднак шукалі і адбіралі арыгіналы самі складальнікі, і яны ж палічылі за лепшае перадрукаваць менавіта з рускамоўнай кніжкі, у прыватнасці, Канстытуцыю БССР 1927 года, якая, дарэчы, абвясціла роўнасць беларускай, габрэйскай, рускай і польскай моваў, але аддала перавагу першай (на жаль, гэтае палажэнне ў «Историю Беларуси...» не трапіла). Нагадаю, тады быў разгар беларусізацыі, амаль усе рэспубліканскія і акруговыя газеты ўжо выходзілі на мове тытульнай нацыі, на ёй жа была выдадзеная і стэнаграфічная справаздача VIII Усебеларускага з'езда Саветаў, які зацвердзіў тую Канстытуцыю.

Але што там казаць пра 20-я гады, калі па лініі найменшага супраціву пайшлі складальнікі, рыхтуючы да друку дакументы, звязаныя з аб'яўленнем незалежнасці Беларусі і прыняццем Канстытуцыі 1994 года. Няўжо і ў гэтым выпадку не знайшлося пад рукой патрэбных тэкстаў на беларускай мове, якая да 1995 года была адзінай дзяржаўнай мовай? І такая яшчэ моўная недарэчнасць. Публікацыя лукашэнкаўскай канстытуцыі на «великом и могучем» суправаджаецца спасылкай на "Звязду" за 26 лістапада 1996 года, дзе яна падаецца... па-беларуску.

Шчыра кажучы, вялікай патрэбы ў гэтай публікацыі (аж на 15 старонках, нягледзячы на «ограниченность объема» кнігі) увогуле не было, хоць бы таму, што брашуры з тэкстам Канстытуцыі ўжо пяты год бесперабойна прадаюцца па даступнай цане ці не ў кожнай кнігарні. Шкада, у кнізе не знайсці аніводнага радка аб тым, што папярэднічала гэтаму рэферэндуму і што адбылося ў палітычным жыцці краіны пасля яго. У дзяржаўных выданнях аб трагічных восеньскіх падзеях 1996 года пішацца аднабакова, непраўдзіва або яны зусім замоўчваюцца. ■

# Адзнака за любоў да СНД

Кірыл ВАНЬКОВІЧ

Для мільёнаў бедных людзей, якімі поўніцца абшары краінаў Садружнасці Незалежных Дзяржаваў (цьмяная цень былога СССР), відавочна, няма больш цікавай і важнай навіны, чым паведамленне з Мінска, што ў Выканаўчым камітэце Садружнасці адбылася экспертная нарада па найзначнейшым пытанні рэчаіснасці – заснаванні Ганаровага знака Садружнасці Незалежных Дзяржаваў.

Нецяжка ўявіць сабе бязмежную радасць нядаўняга савецкага насельніцтва, якое даведалася пра такі занятак чынавенства. Ура! Нарэшце, дзякаваць Богу, дачакаліся, будзе Ганаровы знак. Бо жыццё не дае паўнаты шчасця, калі няма такога важнага атрыбута і калі ніхто з дзеячаў Садружнасці не мае на грудзях каштоўную аздобу. Побач з гэтым пытаннем садружнага быту ўсе іншыя чалавечыя праблемы – заробкі, рабочыя месцы, інфляцыя, хваробы – нязначная драбяза. Інфляцыя была і 10 гадоў таму, і сто гадоў назад большасць людзей хварэла і жыла ў не меншай галечы, чым сёння, а ў 2015 годзе няшчасных не паменшае, ва ўсялякім разе, на тэрыторыі краінаў Садружнасці. Дык нашто пра гэта задумвацца. Тут не паправіш. А вось адсутнасць Ганаровага знака – сапраўднае народнае бедства. Хто будзе ведаць пра СНД, калі не ўбачыць на чыноўніку Ганаровы знак? Няхай жывуць сто гадоў тыя пасланцы незалежных дзяржаваў, што за сціплыя аклады з народнага бюджэту абмяркоўваць зараз праект Пагаднення аб Ганаровым знаку, яго апісанне і форму пасведчання да яго ў скуранай, зразумела, вокладцы ці папцы. Хто любіць СНД, каму дарагія ідэалы гэтага ўтварэння, – той моліць, каб знак з'явіўся як мага хутчэй.

І хатняя гаспадыня ў чарзе за кавалкам мяса, і беспрацоўны, гойсаючы па ўстановах у пошуках працы, і бомж каля свайго сметніка, усе ўсхваляваныя абмяркоўваюць выдатную ініцыятыву постсавецкіх уладароў, шчыра радуюцца, што Ганаровым знакам будуць узнагароджвацца важныя людзі – дзяржаўныя і грамадскія дзеячы краінаў-удзельніцаў СНД, а таксама дзеячы іншых дзяржаваў за актыўнае ўмацаванне нашай Садружнасці, забеспячэнне міру і бяспекі. Добра робіцца на душы простаму чалавеку, калі ён усведамляе, што ніколі ў жыцці і ні за якія, як той казаў, грошы, Ганаровы знак Садружнасці не будзе прышпілены да пінжака дзеячаў краінаў з NATO, бо яно ж не дбае пра мір і бяспеку і не прызнае легітымнасць беларускага прэзідэнта. А вось на ягоных грудзях Ганаровы знак зазззяе, трэба думаць, абавязкова, як даніна садружнай удзячнасці за развіццё СНД.

А якую вытанчаную сімволіку абралі творцы ўзнагароды!. Не інакш, з ласкі божай, у самы час адкалоліся ад СССР тры балтыйскія рэспублікі. І засталося незалежных дзяржаваў дванаццаць. Як было апасталаў! Адпаведна і праектантам шаноўнай узнагароды Ганаровы знак бачыцца як 12-канцовая сярэбраная зорка на 12-вугольнай паліраванай пласціне. У годзе 12 месяцаў, на нябёсах 12 планетаў утвараюць Задыяк. А ў ім кожнай адпавядае свой знак. Можа і яны будуць адлюстраваныя на 12 праменях, што асвятляюць усяму свету шлях наперад. Беларусі, безумоўна, дастанецца знак Рака, бо яна найбольш рухаецца назад у камунізм. Цэнтр прамяністай зоркі займае эмблема СНД, а па крузе, каб ніхто не памыліўся, ідзе надпіс «Садружнасць Незалежных Дзяржаў». Не трэба тлумачыць, што надпіс выкананы на рускай мове. Паміж асноўнымі прамянямі зоркі знаходзяцца дадатковыя праменчыкі з устаўкамі з цыркону (нешта напаўкаштоўнае). Пры дапамозе вянка са стылізаваных лаўровых лісцяў Ганаровы знак мацуецца да ланцуга. Выдатная думка, што вянок сплецены не з пустазельных васількоў і рамонак, а з высакароднага лаўровага лісця, як было заведзена ў старажытным Рыме пры ўскладанні на галаву трыумфатараў. Да таго ж стылізаванае лаўровае лісце аздабляла нямецкі Жалезны крыж. І такім чынам Ганаровы знак СНД пэўным чынам трыумфуе над той гітлераўскай узнагародай. Ланцуг, які трэба насіць на шыі, складаецца з 23 срэбраных звёнаў. 12 з іх выкананыя ў выглядзе дзяржаўных сцягаў краінаў СНД, 11 — маюць выгляд разетак з надпісам «Садружнасць Незалежных Дзяржаў» (зноў жа на рускай мове).

На папярэдніх планах заказ на выраб Ганаровых знакаў мае атрымаць Цэнтр «Рускія рамёствы» (Яраслаўль, Расія). І гэта таксама абсалютна правільна. Хто іншы мае права на атрыманне дарагога заказу, і хто выканае яго лепш? Хіба здолеюць зрабіць такі знак армяне, якія пахваляюцца тысячагадовымі традыцыямі мастацкай апрацоўкі срэбра, ці грузіны, ці казахі, ці туркмены, якія таксама пахваляюцца такім умельствам?

Добра, што пакуль не называюць кошт экземпляра гэтага ўпрыгожання для дзяржаўных дзеячаў. Дарэмна пытлівыя журналісты лезлі ў Выканкам Садружнасці з пытаннем: колькі народных грошай будзе каштаваць новая ўзнагарода для лепшых з чалавецтва? Колькі трэба – столькі і будзе. Народ не пытае, а вам тым болей не трэба цікавацца. Нашто гэткія веды простаму чалавеку, які задаволены, што яму даюць крыху на жыццё, дзякуючы пры гэтым за цярплівасць. Хто любіць СНД, той радуецца пустым выдаткам. ■

КАНФЕСІІ

# Улады ўціскаюць пратэстантаў

Марат ГАРАВЫ

На працягу вось ужо шасці гадоў царква хрысціян веры Евангельскай (пяцідзесятнікаў) «Боская ласка» ў Старых Дарогах працягвае зведваць націск мясцовых улад, паведаміў епіскап Саюза хрысціян веры Евангельскай па Мінскай вобласці Мікалай Новік.

У якасці прыкладу ён прывёў нядаўні інцыдэнт, звязаны з публікацыяй у студзені бягучага года ў мясцовай газеце «Навіны Старадарожчыны» артыкула «Крык душы», у якім пратэстанцкая царква абвінавачвалася ў прынясенні чалавечых ахвяраў. Сцвярджалася, што ў нядзельнай школе пяцідзесятнікі прымушаюць дзяцей пасціць, а таксама забараняюць сваёй пастве ўжываць лекі.

Прычынай гэтай публікацыі стаў ліст у раённую газету мясцовай жыхаркі, сын якой працяглы час наведваў царкву «Боская ласка», а напрыканцы снежня 2000 года памёр ад цырозу печані. Маці нябожчыка абвінаваціла царкву ў тым, што члены абшчыны не дазвалялі яе сыну прымаць лекі і хадзіць на працэдуры, і гэта, нібыта, стала ўскоснай прычынай ягонай смерці. Пасля публікацыі ліста парафіяльнага святара выклікалі ў пракуратуру, а камісія па справах непаўналетніх зацікавілася графікам і праграмай працы нядзельнай школы, зместам падручнікаў і месцам правядзення заняткаў. Пасля растлумачэння сітуацыі чыноўнікам давялося зняць прэтэнзіі з царквы, а газета «Навіны Старадарожчыны» і абласное выданне «Мінская праўда» змясцілі абвяржэнне артыкула «Крык душы».

Зрэшты, як зазначыў епіскап Новік, гэта толькі адзін з шэрагу прыкладаў прадузятага стаўлення мясцовых уладаў у дачыненні да царквы «Боская ласка», якая, дарэчы, з'яўляецца ў Старадарожскім раёне адзінай.

БелаПАН

## Большасць медалёў – у беларусаў

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

Спартсмены з Расіі, Украіны, Латвіі і Беларусі сталі ўдзельнікамі адкрытага чэмпіянату нашай рэспублікі па таэквандо, які прайшоў у Віцебску.

Узнагароды былі разыграныя ва ўсіх дванаццаці алімпійскіх катэгорыях (па шэсць у мужчын і жанчын), беларускія майстры першынствавалі ў дзевяці з іх. Калі замежныя зборныя былі прадстаўленыя ў спаборніцтвах сваімі «першымі» нумарамі, дык у нас па розных прычынах (траўмы, грып) не выйшлі на татамі адразу чатыры члены нацыянальнай каманды.

Самым цікавым атрымаўся фінал у вазе да 74 кілаграмаў, у якім сустрэліся двухразовая чэмпіёнка Еўропы Кацярына Назарава са Смаленска і бронзавая прызёрка еўрапейскага першынства Марыя Жураўская з Мінска.

Паядынак завершыўся ўнічыю – 2:2, але, па думцы суддзяў, перамога была адданая госці з Расіі.

Упершыню чэмпіёнкай Беларусі стала 15-гадовая Святлана Герасімовіч са Светлагорска, а вось імёны іншых пераможцаў з нашай краіны: Людміла Жэронкіна, Юлія Сухавіцкая, Віктар Высоцкі, Кірыл Курылёнак, Аляксандр Матэйковіч, Яўген Стрэчань, Сяргей Малашкоў (усе – Мінск) і Святлана Смірнова з Віцебска. ■

## Сіла моцных

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

Адразу пяць чэмпіёнаў свету розных гадоў удзельнічаюць у сусветным першынстве па міжнародных шашках, які праходзіць у Маскве.

Яны і задаюць тон у спаборніцтвах, займаюць першыя радкі ў турнірнай табліцы пасля чатырох тураў. У апошнім з іх міжнародны гросмайстар з Мінска Анатоль Гантварг сустракаўся з расіянінам Аляксандрам Гетманскім. Тут зафіксаваная нічыя, і Анатоль, чатырохразовы чэмпіён свету, набраў два з паловай ачкі.

А лідзіруе ў спаборніцтвах васьміразовы ўладальнік гэтага тытула Аляксей Чыжоў з Расіі — 3,5 ачкі, на паўачка менш у Гунцісі Валнерыса з Латвіі. Акрамя Гантварга, па 2,5 ачкі маюць яшчэ Роб Клерк (Нідэрланды), Эдвар Бужыскі (Літва) і Аляксандр Шварцман (Расія).

Галоўнай партыяй пятага тура, а можа і ўсяго чэмпіянату будзе гульня Гантварга з Чыжовым. ■

## Зноў Мірны!

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**



Трэці тыдзень запар працягвае прыемна здзіўляць беларускі тэнісіст Максім Мірны. Ужо тры разы ён «зняў скальп» па чарзе з трох лепшых тэнісістаў свету. Спачатку гэта быў Магнус Норман з Швецыі, затым расіянін Марат Сафін, а ў панядзелак Мірны на турніры з серыі «Мастэрз» у сталіцы Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў Дубаі перамог у першым крузе француза Сэдрыка П'яліна з лікам 7:6, 7:5! Толькі па адным ліку бачна, наколькі гэта быў напружаны паядынак! Цяпер за Мірным пачала замацоўвацца слава нізвергальніка аўтарытэтаў. А яшчэ трэба дадаць, што турнір жа ў Дубаі з прызавым фондам у 1 мільён долараў ЗША, што дае дадатковы повад парадавацца за нашага земляка.

На тым жа турніры беларус Уладзімір Валчкоў у першым крузе сустрэнецца з вельмі моцным румынам Адрыянам Іліе. І менавіта з пераможцам гэтай пары сустрэнецца ў другім крузе Максім Мірны.

Добра было б убачыць у Эміратах беларускі двубой. Няхай сабе і не ў фінале, а на далёкіх да яго падыходах.

А тым часам, згодна з апублікаваным рэйтынгам асацыяцыі тэнісістаў-прафесіяналаў, Уладзімір Валчкоў выбіўся на васемнаццаты радок! Так высока з беларусаў яшчэ ніхто і ніколі ў мужчынскім тэнісе не ўздымаўся.

Беларускія жанчыны на гэтым тыдні адпачываюць. ■

## Наскокам па Злучаных Штатах

**Аляксей ЗУБРОЎСКІ**

Пасля перапынку, звязанага з адпачынкам біятланістаў пасля чэмпіянату свету ў славенскім горадзе Паклюка, дзе, нагадаем, беларусы заваявалі два срэбраныя медалі, узнаўляюцца гонкі ў рамках этапаў кубка свету. Чарговыя два з іх пройдуць у Злучаных Штатах Амерыкі, а першы распачынаецца ўжо сёння ў горадзе Солт-Лэйк-Сіці – будучай сталіцы зімовых Алімпійскіх гульняў 2002 года.

Праграма этапу на бліжэйшыя дні такая: 28 лютага мужчынская і жаночая індывідуальныя гонкі на 20 і на 15 кілометраў адпаведна. 1 сакавіка – перапынак, а другога, у пятніцу, мужчынскі і жаночы спрынт. Працяг раскладу ў пятнічным нумары, а застаецца толькі дадаць, што з Солт-Лэйк-Сіці, з якога, будзем спадзявацца, беларусы прывязуць якія-небудзь узнагароды, беларусы пераедуць у Лэйк-Плэсід, яшчэ адзін амерыканскі горад. ■

# Я молода. Значит, все впереди

**Владимир ДОВЖЕНКО**

**В начале марта, в Международный женский день, в Лиссабоне начнется чемпионат мира по легкой атлетике в закрытых помещениях. И в Португалии, впервые после 29 сентября прошлого года, в сектор для толкания ядра выйдет олимпийская чемпионка Сиднея минчанка Янина Корольчик. Всего пять месяцев прошло с того памятного для нее дня, когда 23-летняя белорусская спортсменка, установив рекорд республики – 20 м 56 см – выиграла олимпийское золото.**

**Наша беседа с очаровательной Яной, конечно же, касалась в первую очередь спорта, да, впрочем, и не только его.**





– Наконец-то увижу почти всех своих соперниц вместе и, конечно, Ларису Пелешенко из России. Полмесяца назад она показала лучший результат сезона в мире, 20 м 12 см, и очень готовится к чемпионату.

– ***Между прочим, твоя основная, похоже, конкурентка в этом году заявила, что намерена выигрывать все старты, в которых будет выступать.***

– Пожалуйста! Я буду рада, если она выиграет мир зимой, но летом я ей это сделать не позволю. Когда только все время побеждать, порой для этого устанавливая рекорды, может не хватить сил. Нужно все делать в меру, постепенно. Пьедестал ведь большой.

– ***Ты не соскучилась по борьбе, ядру, соперницам?***

– Даже не знаю, что ответить. В женском ядре, сильнейшей группе, нас очень мало, после Австралии кто-то наверняка закончит выступать... Соскучилась ли, почувствую в Лиссабоне.

– ***Я не ошибусь, если скажу, что главное выступление для тебя – следующая Олимпиада в Греции.***

– Это очевидно. Поэтому и не боюсь сейчас проиграть. И самой важной может снова стать шестая, последняя попытка, но уже через четыре года в Афинах. И первых пять можно в финале даже пропустить.

– ***Да, мы помним олимпийский финал.***

– Вы не поверите, но для меня эта шестая попытка значит почти все. В 1998 году сложилась такая же ситуация на чемпионате Европы, да и потом тоже были похожие случаи. Наверное, это мое – суметь сконцентрироваться в нужный момент.

– ***Скажи, на тренировках результат лучше, чем 20.56 ты показывала?***

– Нет. С заступом – да. Меня на подвиги вдохновляет атмосфера соревнований. В Сиднее на стадионе было более ста тысяч зрителей.

– ***Да, это не Стайки.***

– Здесь – другое дело. Знаешь, у этой березки тот стоит, у другой – такой-то. Все родное и знакомое.

– ***Ты занимаешься толканием ядра ровно 10 лет. Самая молодая, если не ошибаюсь, олимпийская чемпионка в этом виде. Кстати, а в вашем цеху, у толкательниц, вообще, есть двухкратные победительницы Олимпиад?***

– Нет. Каждый раз новая, хотя некоторые попадают на Игры по нескольку раз, а кто-то рассчитывает и на третий.

– ***Скажи, что у тебя изменилось в жизни после Сиднея?***

– С моей стороны – все как обычно. Я не изменилась, вот окружающие по-другому стали ко мне относиться, но это и понятно. Многие проблемы как-то отпали сами собой. Строю дом и в следующем году буду делать новоселье.

– ***Позволь, а как же квартира, положенная за победу на Олимпиаде?***

– Мне разрешили другой вариант, потому что я уже давно строюсь.

– ***А тебе не надоело вот уже десять лет жить в общежитиях?***

– Как посмотреть... В последнее время у меня есть комната в спортивном, женском общежитии от спортобщества «Динамо». Одни девчонки, одна дружная семья. Время идет. Кто-то выходит замуж. Скоро и я перееду.

– ***Яна, ты сейчас человек известный, что и говорить, а сколько раз приходилось встречаться, например, с президентом Лукашенко?***

– Официально? Четыре раза за два года. Пятый, последний раз, на праздновании Нового года, 1 января, у него в резиденции. Для узкого круга людей.

– ***И...***

– Все обычно, когда отдыхаешь.

– ***Он тебя на танец пригласил?***

– С ним я не танцевала, с другими...

– ***Ты родилась 26 декабря и, между прочим, в год Дракона (а прошлый как раз был под его знаком!), в этот же день родились, например, мастер ювелирного искусства Мельхиор и «великий кормчий» китайского народа Мао Цзедун. Ты знаешь что-нибудь о них?***

– Представьте себе, знаю и неплохо. Типичные Козероги. Мы – упрямые, стремительно идем к цели. Сильные, волевые. Я вот десять лет упиралась, но своего достигла! Выиграла в последней попытке. Пелешенко толкала после меня. Могла она победить? Я же смогла настроиться, когда после третьей проигрывала немке...

– ***Ты забыла сказать, что люди твоего астрологического знака еще, помимо прочего, и красивые...***

– Это комплимент?

– ***А разве не так? Что есть то есть. Когда я увидел серию твоих фотографий в «Прессболе», просто ахнул. Ты, случайно, не мечтаешь о карьере фотомодели, топмодели... Или просто хочешь попробовать, как, скажем, та же Анна Курникова, совмещать спорт и съемки для определенных журналов?***

– Съемки, кстати, тоже очень большой труд. Тяжелая работа. Я впервые снималась в таком, скажем, полуобнаженном виде, мне понравилось. По крайней мере, больше, чем нашему министру спорта и туризма Ворсину. А на вопрос отвечу так: нужно сначала найти себя в чем-то одном. Хотя каждая женщина хочет быть красивой. Не секрет, что толканием ядра занимаются люди мощные, атлетически сложенные, но вместе с тем мы и совсем другие, нежные и, да-да, женственные.

– ***Так... Тогда такой вопрос: как можно прокомментировать истории с бойфрендами, герл-френдами у спортсменов, заметь, не ученых, например, а именно спортсменов. Той же Курниковой, Агасси, Беккера?***

– Я не думаю, что необходимо акцентировать на этом внимание. Просто пресса уж очень глазастая. А если взять нас, скажем так, спортсменов из бывшего СССР, то стоит лишь на этих длительных, бесконечных сборах кому-то больше уделить внимания, то скоро узнаешь про себя такое...

– ***Как-то незаметно мы подошли к личной жизни. Я ведь не первый беру у тебя интервью и, извини, читал, что...***

– ...я мечтаю иметь двух сыновей! Угадала?

– ***Дай-то Бог! Трех, даже, четырех, но почему непременно мальчиков? А если будущий супруг захочет двух девочек, что тогда?***

– Хочу сыновей – и все. Но и от девочек тоже ведь не откажусь. Это как судьба сложится. Я всех буду очень любить!

– ***Янина, а можешь нарисовать сейчас портрет будущего отца своих детей?***

– Пока нет. Такого человека я еще не встретила.

– ***После Олимпиады тебе, наверняка, предлагали уехать жить в другие страны, обещая «золотые годы»...***

– Было дело, но я даже не хотела об этом слушать.

– ***А какие встречи здесь дома тебе запомнились больше всего?***

– Ой, их много. Дома, в деревне, в училище олимпийского резерва, в Гродно, где провела пять с половиной лет, Академии физвоспитания и спорта, где учусь на 4-ом курсе, и, конечно, в автопарке № 4 Волковыска, где брат работает.

– ***Каким ты видишь свое будущее, например, в ближайшее время? Все мысли только о спорте?***

– Именно сейчас чем-то другим серьезно заниматься сложно. Хотя бы потому, что в день тренируюсь по два раза.

– ***Восьмичасовой рабочий день получается.***

– Выходит так. Остальное... Загадывать не буду. Я молода. Жизнь только начинается. ■

# Столетие Нобелевской премии

**Лилия ШУКАЕВА**

В этом году будет праздноваться 100-летний юбилей Нобелевского Фонда.

Сейчас в портфеле Нобелевского фонда — более 430 миллионов долларов, предназначенных и для финансирования миллионных премий будущим лауреатам, и для организации сопутствующих этим награждениям симпозиумов и организационных мероприятий. Но мало кому известно, что Нобелевский Фонд дважды за свою историю переживал кризисы, угрожавшие его существованию.

Первый кризис был вызван главным образом негодованием наследников Нобеля, недовольных его завещанием. А через несколько десятилетий Фонд был почти разорен неудачными капиталовложениями и высокими шведскими налогами.

В первый раз Нобелевский Фонд спас Рогнар Сольман — человек, которого изобретатель динамита Альфред Нобель, к удивлению современников, назначил управлять свои наследством. Сейчас им управляет внук Рогнара – Михаэль Сольман, являющийся исполнительным директором Нобелевского Фонда.

Завещание Нобеля, оставившего значительную часть своего состояния на премии за выдающиеся достижения в науке, литературе и за деятельность, направленную на сохранение мира между народами, всколыхнуло всю Швецию. Этим завещанием были недовольны не только члены его семьи, но и многие шведы, в том числе даже и тогдашний шведский король Оскар II. Их возмущало, что премии могут получать и нешведы.

Альфред Нобель умер 10 декабря 1896 года. Служившему у него молодому инженеру-химику Рогнару Сольману было тогда 25 лет. И вот, при вскрытии завещания, к удивлению всех окружающих и его самого, оказалось, что именно Сольману покойный поручал выполнение своей последней воли. В частности, ему поручалось следить за неукоснительным соблюдением распоряжений Нобеля, чтобы на присуждение премий ни в коей мере не влияли ни гражданство, ни национальность будущего лауреата.

Преодолев сопротивление родственников Нобеля, лишившихся его миллионов, и многочисленные юридические препятствия, Сольман, однако, нашел себе союзников. О том, что это было непросто, говорит хотя бы такой факт: однажды, вооруженный револьвером Сольман лично следил за перевозкой ценных бумаг, входивших в имущество Нобеля и стоивших миллионы франков, из французского банка в Швецию.

Тем не менее, Нобелевские премии не присуждались еще в течение 5 лет, до 1901 года. Как поясняет теперешний глава Нобелевского Фонда Михаэль Сольман, шведы никак не могли осознать величие космополитических идеалов Нобеля. В конечном итоге, Швеция все же прониклась этими идеалами, и Нобелевские премии стали неотъемлемой частью шведской культуры.

Сейчас денежный размер каждой Нобелевской премии составляет примерно миллион долларов. С учетом инфляции это несколько больше размера первых премий, присужденных в 1901 году. Но, как сказал профессор Самуэльссон на недавней пресс-конференции, размер вознаграждения лауреатов в течение первых 50 лет существования Фонда, бывало, сильно снижался. Это было связано с некоторыми пунктами завещания Нобеля. Он, например, завещал, чтобы капитал, предназначенный для премий, инвестировался только в «надежные» ценные бумаги, каковыми считались в то время займы с правом получения в любой момент платежей золотом. Биржа и недвижимость считались тогда слишком рискованными. В течение многих лет Нобелевский Фонд был там самым крупным налогоплательщиком. Средства Фонда начали таять, и не было человека с револьвером, который мог бы спасти положение. Зато нашелся предприимчивый финансист, который либерализовал стеснительные правила капиталовложений и восстановил финансовую мощь Фонда. Это был Стиг Рамел, использовавший бум, который переживала недвижимость в 80-х годах. К тому же правительство освободило Фонд от налогов.

С тех пор, как директором Нобелевского Фонда в 1992 году стал Михаэл Сольман, состояние Фонда возросло от 180 миллионов до 430 миллионов долларов. А в момент смерти Нобеля она равнялась 160 миллионам.

Во время празднования 100-летнего юбилея Стокгольм и Осло посетят примерно 200 Нобелевских лауреатов, которые проведут различные научные симпозиумы и примут участие во множестве культурных мероприятий. ■

Svoboda.org

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ № 196 Нумар падпісаны ў друк 27/02/2001 (15.00) Наклад – 9.350